 

Дзмітры Мядзведзеў

# За слёзы бацькоў

Пераклад: Хведара Асініча

**Пачынаем друкаваць новую партызанскую аповесць. Аўтар яе, Герой Савецкага Саюза Дзмітры Мядзведзеў, у час вайны быў камандзірам партызанскага атрада разведчыкаў і палажыў вялікія заслугі ў барацьбе з ворагам. Падзеі, факты і людзі, апісаныя ім у гэтай аповесці, з'яўляюцца праўдзівымі і ўзяты Мядзведзевым з дзейнасці яго ж атрада.**

**Гэта павышае вартасць прапанаванай нашым чытачам аповесці, да таго аўтар яе з'яўляецца дасканалым назіральнікам і ўмее цікава расказаць аб бачаным.**

**Маем надзею, што новая наша аповесць спадабаецца чытачам. Водгукі аб ёй просім накіроўваць у рэдакцыю. Прыемнага чытання.**

### ВЫБАР НЕВЫПАДКОВЫ

Масква. Сакавік 1942 года. Я вярнуўся з Бранскіх лясоў, дзе на працягу паўгода камандаваў партызанскім атрадам. І вось цяпер мне даручана сфарміраваць новы атрад — групу людзей, якая спусціцца на парашутах у глыбокім тыле праціўніка, у лясах Заходняй Украіны і павядзе актыўную барацьбу супраць нямецкіх акупантаў.

Аднойчы ў нумары гасцініцы «Масква», дзе я тады жыў, з'явіўся Саша Творагаў. З ім мы знаёмы па Бранскіх лясах. Саша яшчэ вельмі малады. Ён падобны на школьніка. Хто б сказаў, што ў гэтага дзяцюка за плячамі вопыт бывалага партызана!

З'явіўшыся да мяне, ён дзелавіта запытаўся, калі і куды мы паляцім. Што яго ўдзел у атрадзе — справа вырашана — у гэтым Саша не сумняваўся.

— А хлопцаў возьмеце? — пытае ён мяне, маючы на ўвазе нашых бранскіх партызан, і тут жа раіць: — Добра было б Дарбека Абраімава, і яшчэ знойдзецца чалавек дваццаць. Спісачак я вам падрыхтую...

Неўзабаве прыходзіць маёр Пашун — начальнік штаба атрада, за ім маёр Сцехаў, назначаны намеснікам камандзіра па палітычнай частцы.

— Месцам базіравання атрада вызначаны лясы ў раёне горада Роўна, — тлумачу я, адказваючы на пытанне Творагава. — Выбар невыпадковы. У Роўна фашысты арганізавалі «сталіцу» акупіраванай імі тэрыторыі Украіны. У гэтай «сталіцы» знаходзіцца імперскі камісар Эрык Кох, тут сходзяцца ўсе ніткі кіравання гітлераўцаў на украінскіх землях.

Усе згадзіліся, што трэба ўключыць у атрад некалькі ўраджэнцаў Заходняй Украіны, якія добра ведалі яе.

Наш атрад — пакуль яшчэ маскоўскі — рос не па днях, а па гадзінах. Людзі ішлі і ішлі, — мы з Сцехавым не паспявалі прымаць усіх жадаючых. Кожны з навічкоў прасіў, каб прынялі ў атрад аднаго - двух яго знаёмых.

Як камандзір атрада, я карыстаўся кожным выпадкам, каб пагаварыць з людзьмі аб жыцці, якое чакае нас. Я нічога перад імі не скрываў; папярэджваў аб ахвярах, аб сталым рызыку, з якім звязана жыццё партызана. І бачыў па вачах людзей, што небяспека і ахвяры ні ў кім не выклікаюць страху.

### МАРШРУТ МЯНЯЕЦЦА.

Пераляцець адразу ў вызначанае месца, у Сарненскія лясы Ровенскай вобласці, аказалася справай цяжкай. Сарненскія лясы былі вельмі далёка. Мы вырашылі ляцець бліжэй — не ў Сарненскія, а ў Мозырскія лясы, адтуль да месца назначэння дабірацца пяшком.

У канцы мая выляцела першая чатырнаццаціасабовая група, якую ўзначальваў Саша Творагаў.

— Што б не здарылася, мы сустрэнемся ля вёскі Мухаеды, — папярэдзіў я яго перад вылетам.

Праз два дні прыйшла радыёграма, у якой Творагаў паведамляў, што замест Мозырскіх лясоў група апынулася на поўдзень ад Жытоміра. Гэта амаль за трыста кіламетраў!

Яшчэ праз дзень Саша паведамляў, што нягледзячы ні на якія цяжкасці, вырашыў прабірацца ў Мозырскія лясы, да вызначанага месца. У часе перадачы гэтага паведамлення сувязь нечакана спынілася.

Мы чакалі дзень, два, тры — сувязі няма і няма. Што магло здарыцца?

Вырашылі накіраваць другую групу. Віктару Качаткову, узначаліўшаму яе, было даручана што б там ні стала адшукаць Творагава і абяспечыць прыняцце ўсяго атрада. Але і на гэты раз нас спаткала няўдача: Качаткоў і яго таварышы апынуліся таксама не ля вёскі Мухаеды, а дзвесце кіламетраў на поўнач ад яе.



Дзмітры Мядзведзеў у 1942 г. перад вылетам у варожы тыл.

Праз нейкі час Качаткоў радзіраваў з станцыі Тоўсты Лес. Качаткоў паведамляў, што ён там затрымаўся і арганізуе сігналы для прыняцця новай групы парашутыстаў. Трэцяя група пад камандай начальніка штаба атрада Пашуна выляцела да Тоўстага Лесу.

Усю ноч я хадзіў па пакоі з кутка ў куток, не мог ні спаць, ні нават прысесці. Калі пачало світаць, чаканне яшчэ больш пачало мучыць. Чым святлейшай станавілася раніца, тым трывожней рабілася на душы. Калі нарэшце з аэрадрома паведамілі доўгачаканае «прыляцелі», я адчуў, як выбіўся з сіл за адну гэту ноч.

— Усё ў парадку, — далажыў пілот. — Парашутысты скінуты на сігналы ля станцыі Тоўсты Лес.

Але ў тую самую раніцу Качаткоў радзіраваў, што ніякага самалёта не было, хоць кастры гарэлі ўсю ноч. Што за насланне? Значыць, зноў не туды скінулі людзей! Радзіста ў Пашуна няма, значыць, і вестак ад яго чакаць няма чаго.

Творагаў прапаў, Пашун невядома дзе...

«Вылятаю сам», — тут жа вырашыў я і тут жа, звярнуўшыся да камандавання, атрымаў катэгарычны адмоўны адказ. Трэба было чакаць.

З чарговым звяном — чацвёртым — выляцеў Сяргей Сцехаў. І яго групу таксама скінулі не на сігналы Качаткова.

«Не было ніякага самалёта», — паведамляў Качаткоў. «Трэці дзень, — радзіраваў Сцехаў, — не магу выявіць месца, дзе знаходжуся. Пасылаю людзей у разведку — не вяртаюцца».

Хваляванне пераходзіла граніцы. Я катэгарычна патрабаваў, каб мне дазволілі адправіцца самому. Нарэшце згадзіліся.

### ЗА ТЫСЯЧУ КІЛАМЕТРАЎ

Са мною павінны былі ляцець Аляксандр Лукін, вызначаны пасля знікнення Творагава начальнікам разведкі атрада, радзістка Ліда Шэрстнева і некалькі байцоў — іспанцаў. Яны былі з ліку тых іспанскіх таварышаў, якія ў свой час змагаліся за свабоду сваёй радзімы і потым уцяклі ад фашысцкага тэрора Франко. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, іспанскія антыфашысты пачалі прасіць савецкі ўрад накіраваць іх на фронт. Пятнаццаць іспанцаў былі залічаны ў наш атрад.

Вечарам, дванаццатага чэрвеня, я з сваёй групай быў на аэрадроме.

Пралятаючы над лініяй фронта, — а яна праходзіла не так далёка, — самалёт трапіў пад агонь нямецкіх зенітак. Шчасліва выбраліся мы з небяспечнай зоны і праз гадзіну пала каманда — падрыхтавацца да скачка.

Я глянуў у акно і выразна ўбачыў унізе агні кастроў. Самалёт, робячы кола, пашоў на зніжэнне. Мы строімся адзін за адным ля адчыненых бартавых дзвераў. Там, за дзверамі, — ноч, пустэча. Цяжка справіцца з хваляваннем.

— Пашоў!

Скачу першы.

Нас скінулі высока — метраў дзевяцьсот ад зямлі. Неба яснае, над галавою месяц, унізе кастры, але яны аддзяляюцца — вецер зносіць нас у бок. Навокал парашутысты. Вось адзін праляцеў міма мяне, абганяючы. Парашут не зусім раскрыўся, можа разбіцца чалавек

Мы дамовіліся, што я запалю касцёр і на агонь збяруцца парашутысты. Але я так удэрыўся аб зямлю, што не магу падняцца на ногі і назбіраць хворасту. Тады падцягваю да сябе парашут, запальваю яго і адпаўзаю ў карчы. Хто ведае, хто цяпер прыдзе на гэты касцёр!

Чую чыесьці крокі. Пытаю:

— Пароль?

— Масква!

— Мядзведзь, — адказваю.

Падыходзіць Лукін, за ім — Ліда Шэрстнева, потым адзін за адным з'яўляюцца іншыя. Апошнім падышоў таварыш, якога я прыкмеціў у паветры. Яго парашут раскрыўся не цалкам, і ён разбіўся б, але на шчасце удэрыўся нагамі аб тэлеграфныя правады, якія цягнуліся ўздоўж чыгункі, гэта змякчыла падзенне.

Я ўстаў, з цяжкасцю выпраставаўся.

Компас, зорнае неба і чыгунка гэта дастаткова каб ведаць, куды ісці. Станцыя Тоўсты Лес зусім недалёка.

І так, мы ў тыле ворага, за шэсцьсот кіламетраў ад лініі фронта, за тысячу кіламетраў ад Масквы.

**Працяг будзе**

## З КАЛЯДНЫХ ЗВЫЧАЯЎ

Звычай упрыгожвання святочнай ёлачкі славяне прысвоілі не так даўно. Яны пераняслі яго ў мінулым стагоддзі ад немцаў. Зараз гэты звычай глыбока ўвайшоў у народную традыцыю. Мабыць мала дзе сустрэнеш у нас такую хату, у якой не красавалася б святочная ёлачка.

— Якія ж каляды без ёлкі, — часта гавораць.

Гінуць затое ў нас іншыя звычаі і народныя абрады, якія часта выводзяцца яшчэ з дахрысціянскіх часоў.

І так, зімовыя святы колішніх славян прысвячаліся, між іншым, памёршым. Кароткі дзень і доўгая ноч — усё гэта ўздзейнічала на псіхіку тагачасных людзей і штурхала іх да шукання апекі ў духаў сваіх продкаў. Доказам гэтага можа быць калядная вячэра, у час якой пакідаліся некалі месцы за сталом для памерлых (пазней — для непрысутных). Частку ежы пасля вячэры выносілі на двор, каб маглі пад'есць душы памёршых, ніколі не клалі нажоў і другіх жалезных прадметаў, каб не спалохаць прыходзячых душ. Рускія, ізноў, распальвалі вялікія вогнішчы, каб памёршыя маглі пагрэцца. Ежай, якая засталася пасля вячэры, частавалі жывёлу, а саломай з каляднага стала абвязваліся фруктовыя дрэўкі, верачы, што прычыніцца гэта да багатага ўраджаю груш і яблык. Падобны звычай захаваўся і да сённяшняга дня ў праваслаўных сялян на Беласточчыне. Сена з каляднага стала, як звычай заносіцца тут да хлява каровам, верачы, што прычыніцца гэта да павялічэння надояў малака.

Некалі таксама людзі верылі, што ў калядную ноч вада ў калодзежы заменьваецца ў віно, а жывёла апоўначы гаворыць па-чалавечы. **(в.б.)**

## КУТОК ЭТНОГРАФА



Цікавы выраб кавальскай работы ў выглядзе прамяністага шчыта. Датуецца 1848 годам. Ва ўяўленні люду гэта быў сімвал сонца. Ён упрыгожвае крыж на могільніку ля царквы ў Семяноўцы, Гайнаўскага павета.

фота **М. Пяцюкевіч**



 

# З ГУРТКОМ БГКТ ВЕСЯЛЕЙ

— Хочаце ведаць, якая падзея ў жыцці вёскі Галады засталася на доўга ў памяці яе жыхароў? Адказ на гэтае пытанне можна ў Галадах пачуць наступны: — Такой важнай падзеяй у нас быў вясковы сход на пачатку 1957 года, у якім узялі ўдзел прадстаўнікі Бельскага аддзела Беларускага грамадска - культурнага таварыства. Запытаеце чаму? А вось чаму. У Галадах многа адбывалася сходаў, на якіх выступалі прадстаўнікі ўлад з павета, але ніхто да гэтага часу да жыхароў Галадоў не гаварыў на іх роднай мове. Ніхто да гэтага часу не заклікаў іх да пашаны беларускай мовы, культуры, абычаяў і традыцыі. Словы прадстаўнікоў БГКТ глыбока западалі ў душы сялян.

У гэты вечар падпісала больш 30 чалавек членскія дэкларацыі БГКТ. Было выбрана праўленне гуртка. Былі прыняты першыя пастановы, а менавіта, аб пашырэнні чытачоў роднага часопіса «Нівы» і аб папулярызацыі беларускага сцэнічнага слова. З гэтай мэтай у хуткім часе былі арганізаваны пастаноўкі «Мікітаў лапаць», «Пярэстая красуля», «Боты», «Залёты», «Спатыкнуўся» і іншыя.

А калі вы запытаеце, што цяпер цікавага чуваць



Настаўніца Марыя Пучко.



Старшыня гуртка БГКТ Павал Грыгарук.

у нашых сяброў у Галадах? Дык перш чым адказаць на гэта, варта пазнаёміць вас з некаторымі членамі гуртка.

На сярэдзіне вёскі, амаль што насупраць святліцы, жыве Оля Раецкая. Яна з'яўляецца сакратаром гуртка БГКТ. Калі зойдзеце да яе ў хату, кідаецца ў вочы чысціня, парадак, кветкі на вокнах і каля вокан, макаткі на сценах, саматужнымі дыванамі засланы ложкі, а на іх у два рады вялікія і пухкія падушкі. Оля сядзіць і вышывае. Любіць яна займацца рукадзеллем. А апрача таго вучыцца яшчэ гафтаваць. З ёю вы пачынаеце гутарыць і гутарыцца вам вельмі прыемна. Даведваецеся ад яе, што ў гуртку БГКТ зараз 39 членаў, што найстарэйшы яго член — гэта пяцідзесяцісямігадовы Рыгор Панасюк, а наймалодшы — Ніна Кучынская, якой толькі 15 гадоў.

— А ці ёсць цяжкасці? — пытаюся.

— Так, маем іх. Не ўсе члены БГКТ праяўляюць належную актыўнасць, не ўсе рэгулярна аплочваюць складчыны, не ўсе выконваюць пастановы гуртка. Шостага лістапада 1960 года на сходзе гуртка дзве асобы прышлося нават выключыць з радоў БГКТ. Гаворачы аб працы мастацкага гуртка, скажу, што вельмі цяжка самадзейнікам выехаць у суседнюю вёску, бо няма каму падвезці фурманкамі. А самадзейнікаў шмат. У мінулым го-

(Працяг на стар. 5)

# З ДАЛЁКАГА МІНУЛАГА БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ

Багатая і цікавая гісторыя беларускай зямлі, пакрытая курганамі сівай старажытнасці і неўміручай славай продкаў. У апошні час вучоныя нямала зрабілі для таго, каб адкрыць таямніцы стагоддзяў, вывучыць шляхі грамадскага развіцця народу, пазнаць яго культуру і быт. Аднак яшчэ шмат хвалюючых пытанняў чакае свайго вырашэння; многія з'явы і факты засталіся дагэтуль незразумелымі.

1.

На працягу некалькіх стагоддзяў даследчыкі шмат увагі ўдзяляюць пытанням узаемаадносін, значэння і паходжання назваў славяне, венеды, анты; роўна як і самым этнічным групам, носячым гэтыя назвы. Аднак так і не знойдзен пераканаўчы адказ, пошукі ісціны прадаўжаюцца.

Існуе агульная думка, што да нашай і ў пачатку нашай эры славяне па невядомай прычыне называліся венедамі. У IV ст. з іх як бы выдзялілася паўднёваўсходняя частка, названая антамі. А з VI ст. абедзве гэтыя назвы аб'ядналіся ў новым тэрміне славяне (склавіны), існуючым і цяпер.

Усе тэорыі імкнуцца ўбачыць у славянах нейкае раздзяленне ні то ў часе, ні то тэрытарыяльна, ні то ў асаблівасцях культуры і грамадскага развіцця — на венедаў, антаў і, уласна, славян, хоць сам народ не памятае ніякіх венедаў і антаў. Назвы гэтыя не захаваліся ні ў хроніках, ні ў песнях і легендах, ні ў геаграфічных назвах славян.

Улічваючы такую забыўлівасць народу, можна зрабіць вывад, што ніякіх папярэднікаў славян у выглядзе венедаў і антаў не існавала. Славяне, венеды і анты — гэта адзін і той жа народ (этнічная група), жыўшы ў адзін і той жа час, толькі рознымі народамі называемы па-рознаму.

Нашы продкі называлі сябе славянамі, г. зн. людзьмі, валодаючымі словам, мовай — у адрозненне ад неславянскіх плямён, не валодаючых мовай, зразумелай для славян — немцаў. Гэтая назва ў заходніх славян — суседзяў германскіх плямён — узнікла задоўга да нашай эры, як мяркуюць некаторыя. Мова ў тыя часы была галоўнай прыкметай роднасці і чужацтва.

Паўночна - ўсходнія суседзі славян фіны, а пасля і запазычыўшыя ад іх рымляне, тых жа славян называлі сваёй клічкай — венеды. Тэрмін «венеды» напэўна паходзіць ад фінскага слова vennad — браты. Характэрна, што эстонцы (народ фіна - вугорскай групы) рускіх і цяпер называюць vene, а Русь — Venetaa.

Грэкі ж спачатку ўсіх, жыўшых на поўнач ад Чорнага мора (Понта), называлі агульнай назвай скіфы. Пераканаўшыся, што там жывуць зусім не скіфы, называлі іх проста супроцьлеглымі, г. зн. антамі — якія жывуць на супрацьлеглым беразе Понта. Магчыма, што назва «анты», як і «скіфы», спачатку не адносілася толькі да славян, а распаўсюджвалася і на готаў, гунаў і інш. народы, якія ў IV ст. жылі ў прычарнаморскіх стэпах. Аднак з часам готы і гуны пакінулі палітычную арэну, а на іх месца падняліся славяне, якім і была прысвоена клічка «анты».

Гэтыя чужыя клічкі, даным нашым продкам суседзямі, перасталі існаваць у лексіцы грэкаў, рымлян і інш. народаў толькі тады, калі славяне самі заявілі аб сабе, назваўшы собскае імя, г. зн. калі яны выраслі ў магутную палітычную сілу, вышаўшую за межы сваіх зямель і грознай лавінай рынуўшуюся на Балканы.

2.

З паловы VI ст. іншаземныя весткі (галоўным чынам візантыйскія і арабскія) даволі часта згадваюць аб Русі (Росі), ні то народзе, ні то нейкай сацыяльнай групе. Аднак весткі гэтыя настолькі бедныя і змрочныя, што гісторыкам ніяк не ўдаец-

(Працяг на стар. 5)

# СТРАЧАНЫЯ МІЛЬЁНЫ

## ГОРА

## АД

## ЗЯ

Да 1939 года жыло ў Польшчы 6 мільёнаў сялян, якія не маглі знайсці працы ў гаспадарках. Гэтым людзям не хапала зямлі. Яны былі непатрэбны. «Голад зямлі» асабліва цяжка дакучаў на тэрыторыі ўсходніх раёнаў тадышняй Польшчы, а ў тым ліку і на тэрыторыі ўсёй Беласточчыны.

Перамога народнай улады ў краіне і праведзеная ёю ў 1946 годзе аграрная рэформа карэнным чынам перамяніла ўсю сітуацыю. Усе беззямельныя і малазямельныя сяляне атрымалі дастатковыя надзелы з быўшых панскіх маёнткаў. Гэтакім чынам сяляне асвабадзіліся ад «голаду зямлі», які на працягу дзесяцігоддзяў атручваў ім жыццё.

Апрача аграрнай рэформы шматважную ролю ў асвабаджэнні селяніна ад «голаду зямлі» сыгралі і іншыя фактары, характэрныя для развіцця сучаснай нашай рэчаіснасці. Перш за ўсё трэба мець тут на думцы прамысловае будаўніцтва ў маштабах, якіх не ведала дагэтуль гісторыя Польшчы. Новыя прадпрыемствы раслі ў нас, як грыбы на дажджы. Патрабавалі яны сотні тысяч рук да працы. Сяляне ўпершыню маглі без страху пакідаць свае вёскі, знайсці адпаведную для сябе працу ў горадзе і заснаваць сваё жыццё незалежна ад гаспадаркі. Апрача гэтага, у першых гадах пасля вайны, шмат сялянскіх сем'яў, асабліва з Беласточчыны, выехала ў Савецкі Саюз. Іх гаспадаркі склаліся, менавіта, на дзяржаўны фонд зямлі.

Дзякуючы гэтым пераменам сяляне Беласточчыны не толькі асвабадзіліся ад «голаду зямлі», але ў некаторых раёнах назбіраліся пэўныя рэзервы земляных угоддзяў.

Разгледзім як прадстаўляецца гэтая справа, напрыклад, на тэрыторыі ГРН Рафалоўка, у Беластоцкім павеце. Паводле рэестраў знаходзіцца там 160 гектараў дзяржаўнага фонду зямлі. Каб скарыстаць з гэтай зямлі селянін мусіць аформіць адпаведны дагавор у прэзідыуме мясцовай ГРН. Гэтакім чынам на тэрыторыі ГРН Рафалоўка апрацоўваецца толькі 60 гектараў дзяржаўнага фонду зямлі. Узнікае тады пытанне: што з рэштай? На жаль, ляжыць аблогам. Зрэшты, не толькі гэтая зямля не прыносіць дзяржаве ніякага даходу. На тэрыторыі ГРН Рафалоўка знаходзіцца звыш ста гектараў зямлі, якую ўласнікі пакінулі на волю лёсу.

Зразумела, што рост прамысловых прадпрыемстваў усё яшчэ патрабуе свежых рэзерваў рабочай сілы. Нашыя вёскі ў далейшым з'яўляюцца асноўнай крыніцай гэтых рэзерваў. Дрэнна, аднак, калі некантраляваны адліў людзей з вёсак з'яўляецца прычынай абміранні шматлікіх гаспадарак. Вось прыклады: чатырнаццацігектаровая гаспадарка ў вёсцы Рафалоўка, уласнікам якой з'яўляецца грам. Вінцук Прончук, ужо некалькі гадоў ляжыць аблогам. Уся яго сям'я і ён сам жыве ў Беластоку. Падаткаў ніхто не плаціць. Язэп Сідаровіч з вёскі Дабрынёўка ўжо не жыве. Амаль дзесяцігектаровая гаспадарка ўжо 4 гады ляжыць аблогам. Двух сыноў і чатыры дочкі жывуць у горадзе. Пакінуў сваю гаспадарку і Віктар Кучынскі з вёскі Фальваркі Малыя. Ён, двух сыноў і дачка жывуць у Вроцлаўскім ваяводстве. Падаткаў за звыш дзесяцігектаровую гаспадарку ніхто не плаціў ад асвабаджэння.

Гэтакіх гаспадарак ёсць значна больш. Але існуючую зараз сітуацыю даволі добра адлюстроўваюць пададзеныя ўжо прыклады. Мільён злотых залеглых нало-

гаў — гэта вынік пакідвання ўласнікамі сваіх гаспадарак на волю лёсу. Затраты, зрэшты, не абмяжоўваюцца толькі да завінавачанасці ў налогах. Звыш ста гектараў зямлі пакінута ўласнікамі, а разам з дзяржаўным фондам звыш двухсот гектараў зямлі з'яўляецца нявыкарыстанай. Пасеяўшы на гэтай плошчы, напрыклад, жыта, можна было б сабраць, нават пры нізкім ураджаі, каля двух з паловай тысяч цэнтнераў зярна ў год. Калі перамножыць гэтае праз гады, падчас якіх зямля гэтая ляжала аблогам, затраты будуць складаць дзесяткі мільёнаў злотых! І то выключна на тэрыторыі адной ГРН.

На жаль, няма ніякіх дадзеных, паводле якіх можна было б уявіць сабе сітуацыю ў шырэйшым маштабе. Аднак факты, аб якіх удалося мне даведацца, павінны ўжо адкрыць вочы сельгаспадарчым дзеячам. Павінны яны зразумець, што існуе ў Беластоцкім ваяводстве праблема «збытку зямлі», што гэтая праблема кожны год прыносіць дзяржаве мільённыя затраты.

Давялося мне гутарыць на гэтую тэму з загадчыкам сельскагаспадарчага аддзела павятовай рады ў Беластоку. Аказваецца, што сельскагаспадарчы аддзел, як установа, якая перш за ўсё павінна зацікавіцца гэтым пытаннем, не мае канкрэтных планаў вырашэння гэтай праблемы.

— Маем намер, — кажа загадчык сельгасаддзела павятовай рады ў Беластоку, — пераказаць на дзяржаўны фонд

# ЗБЫТКУ

# МЛІ

зямлі гэтыя гаспадаркі, якіх уласнікі або ўладальнікі адмаўляюцца ад выконвання сваіх абавязкаў перад дзяржавай. З тэрыторыі ГРН Рафалоўка накіравалі мы ў суд ужо 39 прапаноў аб гіпатэчным забеспячэнні.

Невыконванне абавязкаў перад дзяржавай з'яўляецца напэўна злачынствам, а злачынцаў трэба караць. Гэта ўсім, думаю, зразумела. Аднак, ці вырашыць гэта ўжо аўтаматычна праблему збытку зямлі? Мне здаецца, што не. Зямля далей будзе ляжаць аблогам. Зменіцца толькі яе ўласнік. Замест гаспадара ўласнікам будзе дзяржава. Ці знойдуцца людзі, якія хацелі б карыстацца гэтай зямлёю і аплочваць усе абавязкі, калі зараз ляжыць аблогам звыш ста гектараў дзяржаўнага фонду зямлі? Мне здаецца, што гэтакіх ахвотнікаў будзе вельмі мала, прынамсі на тэрыторыі ГРН Рафалоўка.

Загадчык сельгасаддзела павятовай рады ў Беластоку ўспамінаў аб тым, што яны прадбачваюць аддаць частку гэтай зямлі да апрацоўкі ПГР-ам. Гэта, аднак, таксама не вырашае праблемы «збытку зямлі». У Беластоцкім павеце ёсць пэўная колькасць ПГР-аў, але іх тэрытарыяльнае месцазнаходжанне не дазволіць ім загаспадараваць усіх пакінутых гаспадарак. Трэба пашукаць іншых спосабаў.

Зямля на тэрыторыі ГРН Рафалоўка наогул добрая. Ці не варта было б падумаць аб пасяленні на тэрыторыі Беластоцкага павета гаспадароў з іншых раёнаў. Ахвотныя напэўна знайшліся б. Трэба толькі стварыць спрыяльныя ўмовы дзеля пакупкі зямлі і правесці шырокую прапаганду гэтай справы. На колькі мне вядома, на Беласточчыне, у некаторых раёнах сяляне плацяць за гектар зямлі па 20 і больш тысяч злотых. Калі б існуючыя зараз рэзервы зямельных угоддзяў прадаць за палову гэтай сумы, ды яшчэ на выгодную растэрміноўку, дык ахвотныя знайшліся б напэўна. Было б гэта карысна для дзяржавы і для пасяленцаў.

Добрым таксама выхадам было б арганізаванне сельгаскааператываў у тых вёсках, у якіх адчуваецца збытак зямлі. Сельгаскааператывы пры механічнай апрацоўцы зямлі змаглі б загаспадараваць існуючыя зараз рэзервы.

Напэўна знайшліся б яшчэ і іншыя спосабы вырашэння праблемы «збытку зямлі». Трэба толькі бачыць гэтую праблему і прысвяціць ёй столькі ўвагі, на колькі яна заслугоўвае. Нікому ж не павінна быць абыякавым, што кожны год прыносіць дзяржаве мільённыя затраты.

**ВІКТАР РУДЧЫК**

# З ДАЛЁКАГА МІНУЛАГА БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ

(Працяг са стар. 4)

ца вызначыць, што з сябе прадстаўлялі старажытныя русы, і галоўнае, — дзе была іх радзіма.

У апошні час перамагае думка, што першапачатковай радзімай русаў з'яўлялася тэрыторыя летапіснага племя палян, г. зн. прыблізна сучасная Кіеўшчына. Аднак супроць такіх доказаў выступаюць і старажытнарускія летапісы і многія арабскія весткі старажытнасці. Згодна летапісаў, русы прыйшлі ў Кіеў і грунтоўна замацаваліся тут толькі ў ІХ стагоддзі. Арабскія ж весткі ўказваюць, што русы жылі дзесці на паўночным захадзе ад Каспійскага мора і Дона, на востраве, акружаным возерам. Гэты востраў «займае тэрыторыю трох дзён хады; пакрыты ён лясамі і балотамі; нездаровы ён і мокры да таго, што дастаткова наступіць нагою на зямлю, і яна ўжо дрыжыць ад мноства вады».

Аналізуючы гістарычныя весткі і матэрыялы, можна з некаторай упэўненасцю сказаць, што старажытнай радзімай русаў была не сучасная тэрыторыя Кіеўшчыны і басейн ракі Рось, а тэрыторыя сучаснага Палесся. Палессе мела лепшае геаграфічнае палажэнне, чым Кіеўская зямля, адкрытая для частых і знішчаючых набегаў качаўнікоў. Вядома, што аж да прыхода Алега паляне плацілі даніну хазарам. У той жа час старажытныя жыхары Палесся — дрыгвічы — заглі спакойна і незалежна ладзіць сваё грамадскае жыццё. Тут, сярод дрыгвістых балот, мноства рэк і азёр, сярод амаль непраходных лясоў яны былі недасягальнымі для ворага. Ні вынослівая конніца качаўнікоў, ні добра ўзброеныя рымляне не пранікалі ў гэтую прыродную цытадэль. І наадварот, жыхары яе па шматлікіх рэках, бесперашкодна пранікалі на поўдзень, усход і поўнач.

Такім чынам, не старажытная зямля палян, а зямля дрыгвічоў больш нагадвае першапачатковую радзіму Русі (Росі). Палессе яшчэ амаль зусім не даследавана археалагічна і, трэба думаць, што археолагі ў хуткім часе не толькі замацуюць, але і пашыраць прыведзеную думку.

**В. СУМНЫ**

## Каляды ў беларускіх прымаўках

*Хто перад Калядамі добра даглядае, той перад Вялікаднём за хвост не падымае.*

*Калядкі, добрыя святкі, наеўся, напіўся, да й на палаткі.*

*Надышлі Калядкі, бліны ды аладкі.*

*Мароз як на Каляды.*

*Па Калядах у ночы трашчыць, а ў дзень плюшчыць.*

(Паводле Міхала Фэдароўскага «Люд беларускі» т IV)

# З ГУРТКОМ БГКТ ВЕСЯЛЕЙ

(Працяг са стар. 4)

дзе ў Кашэлі ездзіла 18 чалавек, а зараз ездзяць толькі тыя, якія бяруць удзел у пастаноўках. Налічваецца іх 24 асобы.

Аб мастацкай самадзейнасці вы магчыма захочаце пачуць словы мастацкага кіраўніка. Калі лас-



**Кудзельніцы.**

ка. З'яўляецца ім настаўніца мясцовай сямікласнай школы Марыя Пучко.

— На 15 студзеня рыхтуем мы тры аднаактовыя п'есы, — гаворыць яна, — а менавіта «Апошняя варажбітка», «Завочнікі», і «Суд». Беларускія сцэнічныя творы карыстаюцца ў Галадах і суседніх вёсках вельмі вялікім поспехам. Роднае слова са сцэны найбольш «бярэ» людзей. З задавальненнем хочацца вам сказаць, што гурток БГКТ не мала прычыніўся да таго, каб з належнай пашанай сяляне адносіліся да мовы сваіх бацькоў, да той мовы, якая цэлымі стагоддзямі была зняважаная, пакрыўджаная, праследаваная.

Каб мець поўнае ўяўленне аб гуртку БГКТ у Галадах, вы наведайце таксама старшыню гуртка Паўла Грыгарука. У хаце яго на сцяне вісіць балалайка, любіць ён вечарам пайграць на ёй, паспяваць, але найлепш спяваецца тады, калі прыдзе яго аднаіменнік Павал Грыгарук, а таксама Аркадзь Багінскі.

— У нашай вёсцы можна арганізаваць добры хор, — гаворыць старшыня гуртка БГКТ. Ёсць шмат прыгожых галасоў як у хлопцаў, так і ў дзяўчат. Але няма каму хору весці.

Павал Грыгарук доўга расказвае аб справах гуртка, аб яго дасягненнях і недахопах і аб іншых цікаўнасцях вёскі. Вось, напрыклад, моладзь праваджае сваіх сяброў у салдаты. Нядаўна адыходзілі да войска Расціслаў Грыгарук і Янка Багінскі. У іх гонар была арганізавана забава, а пазней вечарына. Калі прыходзяць на водпуск ваеннаслужачыя, тады таксама ў гонар іх арганізуюцца вечарыны.

— А чым вы займаецеся вечарамі, калі няма рэпетыцыі, — пытаю старшыню гуртка. — Іду да кудзельніц, — адказвае. — Нашыя дзяўчаты не прадуць, а толькі займаюцца рукадзеллем. Але так ужо па-колішняму называем іх кудзельніцамі.

Кудзельніцы найбольш збіраюцца ў хаце Олі Раецкай, бо яна з'яўляецца, так сказаць, душой гуртка БГКТ.

Развітаўшыся з Паўлам Грыгаруком, давялося мне яшчэ размаўляць з многімі жыхарамі Галадоў. У іх гутарцы адчуваецца, што гуртком БГКТ і сваёй моладдзю ганарыцца вёска. І радасна робіцца на душы, калі старэйшыя жыхары Галадоў сцвярджаюць, што культурней і весялей стала ў вёсцы жыць з таго часу як пачаў разгортваць сваю дзейнасць гурток БГКТ.

**М. ХМЯЛЕЎСКІ.**
фота: **Г. РАГАЗІНСКІ**



**Оля Раецкая.**

# ПАМЯТАЙЦЕ ПРА ГЭТА, МАЛАДЫЯ!

Маладосць! Што можа быць лепш здаровага, моцнага цела, натуральнай ігры фарбаў шчок і губ, белазубай усмешкі, натуральнага колеру валасоў!

І як горка заўважыць, што некаторыя з маладых злоўжываюць зусім непатрэбнымі ім касметычнымі сродкамі. А ранняе ж карыстанне губной памадай вядзе да страты яркай афарбоўкі губ, частае ўжыванне пудры сушыць скуру, перакіс вадароду робіць валасы ломкімі, садзейнічае іх выпадзенню.

Некаторыя лічаць, што крэм або мазь робяць скуру твару прыгожай і ліквідуюць усе касметычныя недахопы. Памылковая думка! Скура — люстэрка, у якім адбіваюцца ўсе непаладкі арганізма. Таму нельга лячыць асобна толькі скуру. Добры выгляд скуры твару залежыць не толькі ад гігіенічнага догляду, але і ад стану здароўя.

У адных ад прыроды скура твару тонкая і далікатная, у другіх — порыстая і грубая. Сальныя і потавыя залозы скуры ў розных людзей функцыянуюць неаднолькава. У залежнасці ад гэтага скура бывае сухой альбо тлустай. І догляд павінен быць розным.

Чым танчэй і далікатней скура, тым шкодней вельмі частае мыццё халоднай вадой, асабліва з мылам.

Калі скура тлустая, порыстая, то добра кантраснае мыццё з мылам: спачатку цёплай, а затым халоднай вадой. Пры ўмераным салааддзяленні скуры дастаткова мыцца з мылам 2—3 разы ў тыдзень, а ў астатнія дні — без мыла.

Скуру з запаленчымі вуграмі карысна мыць гарачым адварам з лісцямі канюшыны або ваўчкоў, а затым апалоскваць халоднай вадой. Добра таксама выкарыстоўваць раствор борнай кіслаты (на шклянку вады адну чайную лыжку борнай кіслаты).

Крыўдна бачыць на маладым твары плямы хімічнага румянцу. Значна карысней і прыемней, калі румянец — вынік моцнага здароўя, разумнага адпачынку. У гэтых адносінах незамянімы фізкультура і спорт, асабліва калі займацца імі на свежым паветры.

Пасля працяглага прабывання на холадзе або сонцы на губах паяўляюцца павярхоўныя трэшчыны. У гэтых выпадках рэкамендуем змазваць губы тлустым крэмам або бясколернай губной памадай, а пасля працяглага прабывання на паветры адразу не мыцца. Дайце разгарачанай скуры добра астыць, а затым памыйцеся вадой хатняй тэмпературы без мыла.

Каб валасы былі здаровымі і прыгожымі, іх трэба правільна дагледзець. Валасы рэкамендуецца мыць не часцей аднаго разу ў тыдзень мяккай гарачай (да 50 градусаў) вадой у мыльнай пене і апалоскваць цёплай вадой, дадаўшы на адзін літр вады сталовую лыжку воцату. Гэта надае валасам мяккасць і бляск. Нельга расчэсваць валасы мокрымі; доўгія валасы трэба расчэсваць па пасмах грэбенем з рэдкімі закругленымі зубамі. Не рэкамендуецца нанач туга заплятаць косы, таму што ад гэтага валасы робяцца ломкімі і пачынаюць сячыся.

Асабістая гігіена, фізкультура, рэжым вучобы, працы і адпачынку — лепшыя сродкі, якія надоўга захоўваюць натуральную прыгожасць.

# Новае ў італьянскай вёсцы

У Італіі, у маёнтку «Сальчы», непадалёку Чыта-Дэла-П'ева (вобласць Умбрыя), створаны першы ў гісторыі краіны вытворчы кааператыў сялян - палавіншчыкаў. Кааператыў аб'ядноўвае 50 палавіншчыкаў, якія да гэтага часу арандавалі зямлю ў буйнага мясцовага памешчыка, аддаючы яму за гэта 47 працэнтаў ураджаю.

Сяляне правялі сход, на якім вырашылі запатрабаваць ад улад прадстаўлення ім ва ўласнасць памешчыцкай зямлі, якую яны апрацоўваюць.

Статут кааператыва «Сальчы» прадугледжвае сумеснае вядзенне сялянамі іх грамадскай гаспадаркі, набыццё і арэнду сельскагаспадарчага інвентару, правядзенне мерапрыемстваў па павышэнню ўрадлівасці глебы, выкарыстанне дапамогі аграномаў, а таксама выдзяленне неабходных фондаў на прафесіянальнае навучанне моладзі, правядзенне культурна - выхаваўчай работы, медыцынскае абслугоўванне і дапамогу хворым і старым.

Дэмакратычная грамадскасць вітае разгортванне кааператыўнага руху сярод сялян Умбрыі, дзе 52 працэнты ўсіх апрацоўваемых зямель належаць двум працэнтам землеўладальнікаў — буйным памешчыкам і кулакам. Газеты ўказваюць на значэнне гэтай ініцыятывы для вызначэння далейшых шляхоў барацьбы за лепшую будучыню сялян - палавіншчыкаў, колькасць якіх дасягае па ўсёй краіне (разам з членамі іх сем'яў) двух мільёнаў.

# БУСЕЛ НА ПРАТЭЗАХ



**У адным з заапаркаў Англіі жыве бусел. Пасля няшчаснага выпадку яму прыйшлося ампутаваць палавіну нагі. Але вынаходлівыя працаўнікі зоапарка «абулі» бусла ў спецыяльныя чаравікі.**




У нас сям'я складаецца з чатырох чалавек, тата, я з мужам і мой малодшы брат (яшчэ не жанаты). Жывем нядрэнна, рэдка калі бываюць паміж намі якія-небудзь сваркі. Вядома, часам гэта здараецца, але рэдка.

Бацька наш хварэе на адну нагу. Малодшы мой брат мае 18 год. Мама памерла тры гады таму назад.

І вось цяпер наш тата хоча яшчэ раз ажаніцца. Наведвае ён 40-гадовую жанчыну і ўжо даўно з ёю запісаўся б, каб мы не супраціўляліся. Як мне, так майму мужу і брату здаецца, што гэта жаніцьба зусім непатрэбна для нашага бацькі. Мы хочам да гэтага не дапусціць, бо нават людзі смяюцца з нашага «жаніха».

Я, муж і брат моцна просім рэдакцыю, каб яна надрукавала артыкул аб непатрэбнай жаніцьбе на старыя гады. А бацька наш чытае «Ніву» ад першага нумара і такі артыкул меў бы вялікі ўплыў на яго.

**Галена**
Дуброўскі павет

**Паважаная Галена! Вы, ваш муж і брат не правільна паступаеце ў адносінах да бацькі. Вы маеце мужа, а брат ваш хутка ажэніцца. А бацька ўжо адзінокі, магчыма што яго неаднойчы вы не дагледзіце так як трэба і магчыма ён гэта бачыць. Вы пратэстуеце супроць жаніцьбы зусім непатрэбна і вы перастаньце яму перашкаджаць здзейсніць яго намеры. Вы яму ў гэтым нават памажыце. Магчыма Ваш бацька не хоча нікога з вас турбаваць сваёю старасцю, а жонка ўсе гэтыя цяжкасці прыме ахвотна і магчыма ён будзе мець яшчэ многа радасці ў сваім новым супружаскім жыцці.**

**СЭРЦАЙКА**

# НАВІНЫ ТЭХНІКІ

## САМАХОД БЕЗ БЕНЗІНА

Савецкі вучоны Г. І. Бабат апрацаваў тып самахода, у якім ужыты электрычны прывод (напенд). Асноўная ідэя Г. І. Бабата заключаецца ў тым, каб пракласці пад паверхнасцю дарог кабелі, па якіх ішоў бы электрычны ток высокай частаты (нашыя памяшканні асвятляюцца токам нізкай частаты). На аўтамашыне замест прыладаў унутранага згарання знаходзіўся б прыёмнік электрамагнітных хваль. Спецыяльныя прылады пераўтваралі б гэтыя хвалі ў электрычны ток, а ён прыводзіў бы ў рух электрычныя маторы, размешчаныя непасрэдна пры калёсах самахода.

## КРАІНЫ З НАЙБОЛЬШЫМ ЗАСЯЛЕННЕМ

Нашая зямля вельмі нераўнамерна заселена. Ёсць шмат абшараў бязлюднай зямлі. Да яе належаць, у прыватнасці, Антарктыда, пустыня Сахара, пустыня Арабскага паўвострава і іншыя. Маем таксама краіны з вельмі густым засяленнем на адзін квадратны кіламетр. Належаць да іх: Бельгія — 295 жыхароў на км², Галандыя — 340 жыхароў на км², Вялікабрытанія — 212 жыхароў на км², ГФР — 208 жыхароў на км², Японія — 246 жыхароў на км². Ёсць таксама маленькія краіны, як Люксембург ці Сан-Марына, а ёсць таксама сапраўдныя велікаы, як СССР, Кітайская Народная Рэспубліка, Індыя.

| | |
|---|---|
| Кітайская Народная Рэспубліка | — 640 мільёнаў чалавек |
| Індыя | — 400 мільёнаў чалавек |
| СССР | — 209 мільёнаў чалавек |
| Злучаныя Штаты Амерыкі | — 176 мільёнаў чалавек |

Для параўнання падаем лік людзей у Еўропе — 570 мільёнаў і ў Польшчы — 29 мільёнаў.

## МАГУТНЫ ЭКСКАВАТАР

У СССР для капання меліярацыйных равоў у вельмі цяжкіх умовах выкарыстоўваецца зараз экскаватар, які скрушвае нават скалы. Аб магутнасці гэтай машыны сведчыць яе здольнасць за адзін раз узняць сваімі чарпакамі 1160 м³ зямлі.



## УНІВЕРСАЛЬНЫ АЎТАМАТ

Чэхаславацкая машынабудаўнічая прамысловасць здабыла трэцяе месца ў сусветным экспарце.

На здымку: магнетычны аўтамат для вымярэння, які на ярмарках у Брне і Бруселі быў прызнаны за сенсацыю тэхнікі 1960 г.

Універсальнасць і дакладнасць вымярэнняў дазваляе з лёгкасцю правесці кантроль у часе апрацоўкі вялікіх частак, а таксама мініятурных дэталяў і выкрываць нават найменшыя недахопы.



## ШТУЧНЫЯ РУКІ

У адной з кузняў Гліўіцкай гуты абсталявана два першыя ў польскай металургіі маніпулятары. Магутныя сківіцы механічных «штучных рук» лёгка паварочваюць паўтонныя, распаленыя да чырвані, чыгуначныя восі, якім паравы молат надае адпаведныя формы. Працай маніпулятара кіруе ўсяго толькі адзін рабочы. Механічныя «штучныя рукі» карэнным чынам палепшылі бяспечнасць і прадукцыйнасць працы.

## «БАРТКУ» СТУКНУЛА 1200 ГОДЗІКАЎ

Ужо 1200 год шуміць «Бартэк» на келецкай зямлі. Гэта стары дуб, які расце побач з колішнім каралеўскім трактам. Векавы дуб не мае верху. Вельмі даўно зламалі яго спецыяльна, каб у «буслiным гняздзе» распальваць ваенныя «віці». Гэты дуб ужо тады ўзвышаўся над усім наваколлем.

Паводле народных паданняў, у цені прастарога дрэва адпачывалі ў свой час каралі Хробры, Кшывоусты, Локетэк, Казімір Вялікі і Ягайла.

Апошнія памеры выказалі, што «Бартэк» мае вышыню 23 метры, карона яго распята на 42 метры, а акружнасць ствала ўнізе мае 1340 сантыметраў.

## ГРУШЫ НА... ВЯРБЕ

Растуць яны на адным з дрэў парка ў Бродах Жарскіх, Любускага павета. Вельмі дзіўнае гэтае дрэва. Яно злучае ў сабе ўласцівасці вярбы і грушы. На вышыні паўтара метра ствол гэтага дрэва раздвойваецца ў дзве тоўстыя галіны. Адна з галін мае доўгія лісткі, зусім падобныя да лісткоў вярбы. Сярод гэтых лісткоў восенню вісяць самыя праўдзівыя палявыя грушы,




## САМААБСЛУГОЎВАННЕ

### ХТО ПІЎ

— Мама, ты піла лякарства? — пытае сын у маці.

— А чорт там яго піў! — адказвае маці.

— А я думаю чаму паменшала лякарства, — сказаў сын.

**Фёдар Міхалюк**
Койлы

### МЕСЯЦ

— Які месяц мае 28 дзён? — пытае настаўнік вучня.

— Кожны, — адказвае вучань.

**Г. Марцінчык**
Гарадок.

### У ТУРМЕ

Начальнік турмы:

— У нас такі закон: кожнаму вязню даць працу па яго спецыяльнасці. Вы якую спецыяльнасць маеце?

— Я лётчык, — адказвае вязень.

**Аляксандр Свірыдзюк**
Рыбалы

### ПРЫСЯЖНЫ АДВАКАТ

— Бацька, што гэта такое прысяжны адвакат?

— Гэта, сынок, такі чалавек, якому вераць толькі тады, калі ён прысягне.

**ЯНКА КЛІМЮК**
Дубічы Царкоўныя

### НЕ ЎМЕЕ

Дзед прызнаўся ўнуку, што не ўмее пераводзіць дзяцей.

— А як жа ты пераводзіў бабулю як яна была малою? — пытае ўнук.

**Андрэй Сідарук**
Сакі

### НЯДОБРАЯ МАЦІ

Антось прышоў дахаты з плачам і разбітым каленам.

— Я так і ведала, што гэтая забава так скончыцца, — сказала маці.

— Бачыш, мама, якая ты нядобрая, ведала аб тым, а мне нічога не сказала.

**Марыя Баўтручук**
Плюшчы



Мара варатара

## ВЫНАХОДНІК

Кастусь паглядзеў на прысутных так, як глядзеў Напалеон на поле пад Аўстэрліц, пасля падняў руку, наказваючы цішыню і пачаў даклад.

— Паважаныя грамадзяне вясковага саслоўя! Лепшага жыцця нам ніхто не дасць, калі сваёй галавой не выпрацуем яго. Пад нашымі нагамі мільёны валяюцца, а мы, калупаючы ў носе, топчам па гэтым скарбе.

Наш зямны шар у сярэдзіне растоплены. Розныя металы - мінералы кіпяць у ім, як у гаршчку. Гэтай кіпятні і за дзесяць тысяч год канца не будзе. На глыбіні кожных 100 метраў тэмпература зямлі павялічваецца на 3 градусы. Калі ўглыбішся на 7 кіламетраў, дойдзеш да тэмпературы 200 градусаў. Хопіць тады нам выкапаць такія два калодзежы, пусціць у адзін з іх пад ціскам ваду і з другога калодзежа выляціць пара з падвоенай сілай. Тады застанецца толькі трубы пралажыць ад калодзежа да хатаў і паравое ацяпленне гатовае.

Не патрабуем тады ноччу ў лес ехаць і дровы красць або ляснікам барыш ставіць. У хатах зімою будзе так цёпла, што хоць без ганавіц хадзі.

Калектыўную сушарку ў вёсцы паставім. Бабам будзе выгода вялікая. У такой сушарцы не толькі бялізну, грыбы, ягады ці гарох, але нават чорта рагатага разам з капытамі засушыш.

Да паравога катла турбіну прычэпім і паравы млын у нас запыхкае, сячкарня зачахкае. Да турбіны падставім дынама і бясплатная электрычнасць усю вёску асвеціць, ды так, што Цімо:: з Параскай па цёмных кутках перастануць церціся, людзей не будуць смяшыць.

На гародах паравую цяплярню пабудуем, ды зімой грошы паплывуць у нашыя кішэні за памідоры, радзіску, салату.

А ў лазні, якая вырасце за вёскай, вельмі ж дарэчы будзе нам з суседкамі паталкавацъ, а пасля бярозавымі венікамі грэшнае цела вытрапаць.

Хлявы і куратнікі ацяплім. Куры зімой нясціся будуць. Бяры за кожнае яйцо два-сорак.

Падземная пара рэвалюцыю ў сельскай гаспадарцы зробіць. Адвечныя звычаі пераменіць. Сустракаючыся, замест «добры дзень» будзем гаварыць «з лёгкай парай».

Тут Кастусь зрабіў перапынак у сваіх вывадах і ў гэты час спытаў нехта:

— Добрая штука, пара. Але, ты даражэнькі, скажы нам, як дакапацца да гэтай тэмпературы. Гэта ж не жартачкі, такая глыб.

Кастусь пашукаў вачыма пытаючага, падрапаў патыліцу, а пасля адказаў:

— Вясковыя грамадзяне, я ж не інжынер. Адкуль жа мне гэта ведаць. Калі б я ведаў, дык сам даўно да параціплоўні прыступіў бы. Аднак, даражэнькія, за гэтую справу калектыўна трэба брацца. Самае галоўнае — ініцыятыва. Я вам і падказаў яе. А рэшта, гэта ўжо вашая справа.

Мілыя чытачы! Бяда ў тым, што ў нашых грамадзян ініцыятыва з лёгкай парай выскаквае, а калі даходзіць да справы — людзей не хапае.

*Дзядзька Левон*

## ЦІ СВЕТ, ЦІ СВІТАЕ...

(БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ПЕСНЯ)



Ці свет, ці світае,
Ці на зоры займае?
Ці мой міленькі, голуб сівенькі,
Коніка сядлае?

Сядлай, мілы, каня,
Каня вараненькага,
Прыезджай, мілы, не кідай, мілы,
Мяне маладзенькую!

Ці я не такая,
Як і гэна другая?
Ці й харошая і прыданая, —
Доля ж нішчасная!

Ой у полі азерца,
Там плывала вядзерца,
Ой прыдзі, мілы, дай парадзімся,
Маё мілае сэрца!

Чырвона каліна
Да ў полі павяла,
Не суверная да дружынанька
Мне свет завязала.

Ты пойдзіш гарою,
А я далінoю,
Кажуць мне людзі, дый сама знаю
Што ня жыць мне з табою.



Свежая рыба






### МАЯ ЖОНКА

Маю жонку, маю хату,
Хваліць жонкі не магу.
Хай бы жыў з ёй той, хто сватаў,
Яна гне мяне ў дугу.

Жонка ўлезла мне на голаў,
Там сядзіць ужо дваццаць год.
Будзь жа браце тут вясёлы,
Шукай шчасця, асалод.

Дома голасу не маю,
Паспрабуй жа, заспявай!
Яшчэ добра калі лае,
Б'е — дык з хаты уцякай.

Жонка здзекваецца, морыць,
Каб я да другой не ˚цёк,
Мяне часта у каморы
Замыкае на замок.

Не знайсці такой вам жонкі!
Яна ў ночы моцна спіць,
Мне ўсю ночаньку пялёнкі
Для дзіцяці кажа мыць.

Мая жонка літраў дзвесце
Супу варыць на мой рот,
Цэлы тыдзень трэба есці,
А другі — лячыць жывот.

Выбягае жонка з хаты,
Крычыць: доктара давай!
Кіпятком абліла пяты,
Добры будзь і даглядай.

Хай жа возьмуць жонку чэрці!
Як жа мне яе любіць?
Не дае ніяк памерці
Ды і цяжка з ёю жыць.

**АНДРЭЙ САМАСЕЙ**



— Не звяртай увагі на балаган, ведаеш як гэта бывае, калі чалавек з'яўляецца халасцяком.